 




ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 7 (13) 1 красавіка 1992 г.

Цана 40 кап.

# А на «панскай» вуліцы...





Уросшая ў зямлю, дажываючая свой век хацінка і гэты двухпавярховы катэдж з вялізнымі вокнамі, якімі ён фанабэрыста пазірае на такіх жа фанабэрыстых суседзяў... Хаціны раскіданы на многіх вуліцах Талачына, катэджы-церамы сабраліся на адной, якую называюць «Панскай» і на якую селяцца ў асноўным кіраўнікі раённага маштаба, так званая «эліта».

Гаспадыня хацінкі (на здымку) васьмідзесяцігадовая Ефрасіння Сафронаўна Пахомава з цяжкім уздыхам расказвае:

—У 1943 годзе бежанкай са Смаленска дабралася я з дзецьмі да Талачына. На карове везлі свой скарб. Карову пасля прадала і купіла вось гэты «церамок», які і тады ўжо не выдзяляўся «маладосцю». У ім вырасціла дзяцей, якія раз'ехаліся хто куды, у ім ляжаў на куце муж-нябожчык. І вось ужо чатырнаццаць гадоў пакутую адна...

—Ці звярталася я за дапамогай да мясцовых улад?—перапытвае бабуля.—Звярталася, і не аднойчы. Напачатку хацелі выдзеліць сумесную з жанчынай-п'яніцай, без усялякіх зручнасцей, кватэру, а потым, калі я адмовілася ад яе, увогуле размаўляць не сталі. Нібы я не варты нічыёй увагі чалавек. А я ж сумленна працавала, у тым ліку ля дваццаці гадоў у раённым камбінаце бытавога абслугоўвання насельніцтва. А непатрэбная, выходзіць, нікому. Так і згніеш зажыва ў гэтай трушчобе...

Даўні камяк сціскае сэрца, калі прыгадваю не дзесятак, многія дзесяткі такіх жа хацін у адным толькі Талачыне, у якіх гэтак жа, як Е. С. Пахомава, пакутуюць, дажываючы свой век, удовы загінуўшых на франтах Вялікай Айчыннай вайны, проста адзінокія жанчыны.

...А на «Панскай» вуліцы, нібы грыбы пасля цёплага дажджу, растуць прыгажуны-катэджы. З нянавісцю пазіраючы на іх, талачынцы ўсё часцей і часцей прыходзяць да думкі, што ці не трэба б ужо зноў, як у рэвалюцыйныя гады, кінуць заклік: «Мір хіжынам, вайна палацам!»

М. БАШАРЫМАЎ.
Фота Л. Скарупы.

Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ

Хай затопчуць мяне, хай
зраўняюць з зямлёю,
Я ўсё роўна ўваскрэсну
з магілы сваёй:
Прарасту праз дзірван
сакавітай травою,
Праяўлюся на дрэвах
дрыготкай ліствой.
І складзецца з мяне мая
новая песня,
Тая самая песня, што
нішчылі ўсе
Над калыскай дзіцяці,
ля матчыных весніц
І ў рамонкавым лузе, і ў
жытняй расе.
Я ўсё роўна ўваскрэсну,
прыду і дыханне
Я сваё удыхну у нашчадкаў
маіх
І праз ноч у крыві у блакітнае
ранне
Павяду іх за песняю роднай
для ўсіх.

**З верай у падтрымку і разуменне нашага Адраджэння людзьмі розных нацыянальнасцей мы прадастаўляем сваім чытачам 4-ю і 5-ю старонкі «Выбара».**

Перепечатка по просьбе читателей

# ГРЕШНИК №1

Больше всего на нашей грешной земле Берия любил власть и женщин. Что у него стояло на первом месте, а что на втором, я, ей-Богу, затрудняюсь сказать. Судя по всему, обе пламенные страсти Лаврентия Павловича сосуществовали на равных правах.

Возникает вопрос—было ли у него время думать о женщинах? Насколько я понял, Берия думал о них всегда и везде, даже на заседаниях Политбюро ЦК КПСС. Иначе как объяснить тот факт, что в перерывах он выходил из кабинета Сталина и по телефону Поскребышева заказывал женщину с доставкой на дом. Так бывало не раз и два, поэтому уместно говорить не об исключении из правила, а о самом правиле.

Не знаю, кто как, а я не очень-то доверяю свидетельским показаниям в отношении лиц, до ареста занимавших главенствующее положение, а после ареста, еще до следствия и суда, громогласно объявленных врагами народа. Когда вся мощь государственной машины направлена против низложенного мастера-механика, еще вчера эту машину смазывавшего и лелеявшего, подмастерья, словно по команде, бросаются врассыпную, это закон. Вообще говоря, лакейская преданность, базирующаяся на корысти, на страхе и на лжи, в критические моменты по-другому и не проявляется. И, согласитесь, было бы странно, если бериевские вассалы в ходе следствия не возводили бы поклепов на бывшего сеньора. Но их показания в той части, которая касалась интимной жизни Берии, не содержат заметных преувеличений и, в сущности, не противоречат показаниям самого Лаврентия Павловича, отраженным в цитируемом протоколе допроса:

(Окончание на 7-й стр.).

# ХОПІЦЬ СЯДЗЕЦЬ У МЯККІХ КРЭСЛАХ

*Толькі тры чалавекі з жыхароў 4 вёсак саўгаса «Ульскі» адмовіліся паставіць свае подпісы ў карысць рэферэндума*

**У газеце «Віцебскі рабочы» за 17 сакавіка 1992 года я прачытаў артыкул «Прабіраючыся да мяккіх крэслаў...» Свае думкі і меркаванні якраз выказалі тыя 5 чалавек, якія зараз сядзяць у мяккіх крэслах. Я ў сувязі з гэтым з'явіў жаданне выказаць сваю думку ў адносінах «да запланаванага кіраўніцтвам БНФ рэферэндуму аб недаверы Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь». Я непасрэдна маю дачыненне да рэферэндуму. Але з артыкулам рашыў звярнуцца ў рэдакцыю газеты «Выбар», як дэмакратычнай, бо «Віцебскі рабочы» хоць і называецца незалежнай і масавай, але адпавядае больш інтарэсам наменклатуры, наконт рэферэндуму больш друкуе «супраць», а «за» пазбягае, няма ў яе аб'ектыўнасці ў друкаванні жаданняў народа.**

У пачатку сакавіка я атрымаў 40 падпісных лістоў для збору подпісаў у падтрымку рэферэндуму і за 4 дні сабраў 200 подпісаў у 4 вёсках саўгаса «Ульскі». Адмовіліся паставіць подпіс у падтрымку рэферэндуму трое, або 2% з тых да каго я заходзіў у кватэру. Прычыны адмовы крыліся ў тым, што гэтыя трое людзей сумняваліся, што можна нешта зрабіць для паляпшэння цяжкага становішча людзей на вёсцы. Але 98% верацъ, што народ сябе абароніць, калі выбраць новы Вярхоўны Савет і стварыць новы Урад. Хоць і 2%—гэта таксама народ, але я перавагу аддаю 98 працэнтам, ад імя якіх узяўся за пяро і паперу, бо вельмі непрыемна ўразіў артыкул «Прабіраючыся да мяккіх крэслаў...»

Я адначасова хачу і выказаць сваю думку, і даць нязгоду 5 аўтарам гэтага вялікага артыкула. **Галіна Вяткіна,** дырэктар прамыслова-гандлёвй фірмы «Світанак», народны дэпутат СССР пачынае выступленне лозунгам «Лічу, што коней на пераправе не мяняюць». Такіх SOS-лозунгаў прыдумана пасадскімі асобамі з мяккіх крэслаў і цёплых месц многа. І ўсе яны скіраваны на тое, каб іх нехта абараняў ад такіх-сякіх бэнэфаўцаў, якія схапілі анёлаў, народных «дабрадзеяў» за горла і гвалтоўна душаць. Наконт «коней». А што рабіць, калі гэтыя «коні» не цяглавыя, а цыркавыя. З-за гэтых «коней» «паром» на пераправе ўжо некалькі год толькі гайдаецца, намакае ды ў раку паглыбляецца, так ніколі да берага і не прыстане, гэтыя «коні» да сябе страцілі давер і патрэбу з боку народа, дыскрэдытавалі сябе. Карысці было б больш, калі б гэтых «коней» зусім з парома ў ваду скінуць на вольнае цячэнне і больш на паром не дапускаць, як з КПБ здарылася. Людзі ператвораны ў рабоў, бурлакоў, яны і без цыркачоў да берага хутчэй даплывуць. Такіх лозунгаў я і сам магу дабавіць. «Не сячы курыцы галаву». А што рабіць, калі гэтая курыца ўжо некалькі год дзяўбе, набівае валё, сакочыць, а яйка няма. Асабліва гэтае «сакатанне» зараз актывізавалася з газет, радыё і тэлевізараў. Уся наменклатура паднялася. Сапраўдны гаспадар такую курыцу даўно б галавой на калодку палажыў, але ён і бярэ гэты тапор у выглядзе рэферэндуму. Ёсць лозунг і пра расскачванне лодкі, але людзі гавораць: калі не ўмееш грэсці, то не садзіся за вёслы. А наш Вярхоўны Савет хоць і тоне, народ у галечы топіць, але ўсё імкнецца грэсці. Такіх ужо абрыдлых лозунгаў кіраўнічая наменклатура многа прыдумала, але яны не ў карысць іх творцаў.

Яшчэ справа ў тым, што я сабраў подпісы ў 4 вёсках, а ў нашым саўгасе такіх вёсак каля 20, а ў раёне сотні, людзі застануцца не ахопленымі, бо раённыя ўлады не цікавяцца, чым жыве народ, варожа адносяцца да рэферэндуму, тармозяць работу ініцыятыўнай групы. Але настрой у асноўнай масы людзей бадзёры, падтрымліваюць рэферэндум, мяркуюць пайсці на выбарчыя ўчасткі і выбраць сапраўдных народных дэпутатаў.

**Пётр Мінчанка,** старшыня гарадскога савета ветэранаў вайны і працы, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь свой артыкул пачынае славамі: «Міжволі ўзнікае пытанне: каму патрэбен гэты рэферэндум? Толькі кіраўніцтву БНФ, які прадстаўляе ў нашым парламенце невялікую колькасць дэпутатаў і, значыць, адпаведную колькасць выбаршчыкаў». Але ж я добра помню, як вылучаліся кандыдаты ў дэпутаты райкомамі і абкомамі партыі, якой дэмакратыяй яны кіраваліся. Я паважаю т. Мінчанку, не бяруся аспрэчваць яго выказванні. Але хацеў бы, каб т. Мінчанка, як ветэран, падсказаў мне (я—старшыня савета ветэранаў саўгаса «Ульскі», як пражыць састарэлым людзям у вёсцы сёння

(Заканчэнне на 3-й стар.).

 



*Кто нами руководит*

# КЛЕРКИ СВОЕГО НЕ ВЫДАДУТ

**Продолжительное время лихорадит Витебский радиотехнический завод. О конфликте его директора с рабочими предприятия дважды писала «Народная газета».**

**Наш корреспондент беседовал с председателем совета предприятия Н. Хомичем.**

**—Николай Иванович, думаю у Вас нет основания жаловаться на прессу. С начала года регулярно появляются заметки о положении дел на вашем заводе, но, насколько мне известно, изменений немного.**

—19 декабря прошлого года коллектив нашего предприятия выразил недоверие директору Михаилу Максимовичу Рипинскому. Причин для этого более чем достаточно: полный развал производства, отсутствие загрузки станочников, самая низкая среди предприятий нашей отрасли зарплата, массовое увольнение лучших специалистов.

**—Действительно, причины для отставки директора очень серьезные.**

—Вот и мы так думали, когда голосовали на конференции за освобождение директора от занимаемой должности. Но, когда вместе с председателем профкома завода Петровичем Степаном Константиновичем мы приехали в Минск к нашим хозяевам, в Госкомпром, там нас приземлили сразу, еще в приемной председателя. Молоденькая секретарша очень мило спрашивает: «Вы к нам в который раз?» Говорим, что первый и надеемся все сразу решить, потому что положение совсем аховое, тянуть некуда. «Что вы!,—заметила секретарша—к нам с такими же вопросами и по три и по четыре раза приезжают, так что, ребята, не настраивайтесь и не расстраивайтесь».

**—Госкомпром создан не так давно. Организация новая...**

—Оно так, но впечатление от нее гнетущее. Мне, правда, не приходилось бывать в Министерстве, но я бывал в Главке. Так вот, когда я попал в этот Госкомпром, мне показалось, что даже запах в коридорах такой же. Те же клерки в лоснящихся на определенном месте штанах, те же кабинеты, те же приемные, те же бесконечные ожидания, та же имитация какой-то деятельности.

**—К кому же вы попали!**

—Нам в определенном смысле повезло. Всего лишь после четырех часов ожидания нас принял заместитель председателя Госкомпрома Бохан Николай Константинович. Энергично пожал нам руки, собрал складки на лбу, изобразил максимум внимания и уверенно пообещал на прощание: «При решении судьбы вашего предприятия мы примем во внимание мнение вашего коллектива.»

**—И как же выполнили это обещание!**

—Да никак. Вообще трудно было ожидать что-то другое от бывшего работника аппарата ЦК КПБ (они ведь привыкли обещаниями кормить). Ждали бы, наверное, до нового пришествия, да спасибо «Народной газете»—поддержала. После появления второй заметки Николай Александрович, будучи в Новополоцке, мимоходом посетил-таки наш завод.

**—И, наконец, ваши вопросы были решены!**

—Как бы не так. События развивались в духе традиций нашей коммунистической партии.

Приглашают меня с председателем профкома в кабинет директора. Там уже находятся: сам директор, Бохан Н.И., главный инженер, заместитель председателя облисполкома Королев Альберт Гаврилович и председатель федерации профсоюзов Салтанов Валерий Иванович. Расселись. Бохан и говорит: «Вот к нам в Госкомпром поступило заявление от Михаила Максимовича с просьбой уволить его по собственному желанию в связи с плохим состоянием здоровья».

Понимаете! Как будто не было заводской конференции, а также нашей беседы в Минске, материалов «Народной газеты». По собственному желанию директор хочет уйти, по своей инициативе.

А Бохан продолжает: «Мы,—говорит,—решили с 1 марта отправить Михаила Максимовича в отпуск, а потом мы трудоустроим его на одном из предприятий города Витебска».

**—Типичный замысел партаппаратчиков. Так они всегда спасали своих «штрафников».**

—Да, ситуация какая-то странная, но так про себя решили: Бог с ними, с формулировками, с заявлением директора, в конце концов важен результат. Вышло-то в итоге по-нашему, директор уйдет, не будет мозолить глаза рабочим. И не стали спорить.

**—Что же было дальше!**

—Ждем 1-е марта, но 28 февраля главный инженер собирает руководителей и произносит краткую речь: «Пришел приказ из Госкомпрома, меня назначили и. о. директора, а нашему уважаемому Михаилу Максимовичу Рипинскому спасибо за работу, он остается на заводе в должности заместителя главного инженера по новой технике, прошу вас его любить и жаловать». И затем последовала немая сцена, совсем как у Гоголя. Мы ведь по всему заводу рассказали, что директор уходит из нашего коллектива.

Позже мы узнали, что наш начальник отдела кадров Задора В.В. не один час провел в кабинетах Госкомпрома. Формулировка в приказе об увольнении директора была изменена, и это дало Рипинскому основание остаться на заводе. А заниматься трудоустройством директора после его увольнения было поручено Королеву А. Г., который спокойно ушел в отпуск.

Вот такая история с исполнением желаний и обещаний. Как говорится, «за что боролись?...»

**—Грустная история вашей борьбы...**

—Грустно потому, что бывшие партийные клерки (Бохан, Королев и др.) добились своего: оставили Рипинского на заводе в начальниках. И люди поэтому продолжают уходить с предприятия. Они полностью разуверились в порядочности властей. Теперь их всерьез не принимают.

**—Таково лицо бывших партийных чиновников. В нынешней ситуации особенно заметны их несостоятельность и ненужность. Если вы еще надеетесь на полезность нынешнего вашего республиканского и областного начальства, то зря теряете время.**

—Мы уже это поняли. Несколько дней назад прошла конференция трудового коллектива, приняли решение о начале работы по приватизации нашего завода, а точнее по созданию акционерного общества. Дело это новое, трудное. Не знаем, как посмотрят на эти вольности наш хозяин—Госкомпром.

**—Сделайте все, чтобы не чиновники, а вы сами были хозяевами своего предприятия, а значит и хозяевами своей судьбы. Другого пути нет.**

—Думаю, что это так.

**Беседовал Я. СЕРОВ.**

*Рэзананс*

# Наш урад аберагае рабаўнікоў

Лідэры дзяржаўнай камуністычнай партыі пачалі перабудову пры маўклівай падтрымцы радавых камуністаў, якія не чакалі, што так хутка стануць непатрэбнымі. Радавыя камуністы, якія не мелі ніякіх ільгот, не вельмі засмучаны, працуюць як і працавалі, а вось актывістам цяжка стала, няма каму ім бурна апладзіраваць. Вось мараць яны вярнуць Ідалаў, якім бездакорна служылі. Але нічога не выйдзе, правадырам ужо вашы ўзносы непатрэбны, бо цяпер ім ёсць куды свае накапленні прыстроіць. Заклікі да сумлення дзяржаўна-партыйнай наменклатуры, атрымаўшай уладу, ад ПКБ безвыніковыя, лёс партыі ўжо іх не турбуе.

Карміць вялікую колькасць прыслужнікаў дыктатарскай улады, каму дазвалялі браць трошкі больш з грамадзянскай кармушкі, цяпер усё менш жадаючых. Вось любіцелі дармавога і пужаюць грамадзянскай вайной.

Не, паважаны ветэран вайны і працы В. Цярэшчанка, што аспрэчвае ў «Віцебскім рабочым» выступленне аршанца Г. Берэста, акрамя як з вашага боку, грамадзянскую вайну ніхто не пачне.

Генадзь Берэст як раз заклікае да цывілізаванага пратэсту, да адстаўкі парламента і ўрада праз народны рэферэндум. Бо наш урад нічога не робіць, каб садзейнічаць пананаванню парадка і законнасці, ён аберагае ўсіх рабаўнікоў: буйных і маленькіх князькоў на сваей пасадзе. Урад пакуль што ведае, непадсудзен. Раблю што хачу, усё роўна атрымаю персанальны пенсіон і яшчэ, магчыма, ахову.

Адразу хачу адкінуць галоўны довад, што партыю трэба вярнуць, бо цяпер некаму скардзіцца. Дапамагала партыйная дубінка зрэдку, калі гэта было на карысць кіраўніку партыйнаму. Ёсць другі шлях.

Нам патрэбна такая ўлада, якая вышэй паставіць закон, Канстытуцыю, правы чалавека над адносінамі да партыі і пасады.

Калі будуць працаваць законы, сродкі для непрацаздольных ветэранаў знойдуцца. Успамінаю сваю маці, якая ніколі не скардзілася на малую пенсію (50 рублёў), а працавала на сябе да самай смерці і выхавала дзяцей. Ніхто ёй не дапамагаў. Таму мы павінны адмяніць усе прывілеі, акрамя як для непрацаздольных.

Толькі цвёрды парадак і падпарадкаванне законам, прызначаным для абароны правоў і свабод чалавека, прывядуць да росквіту Беларусі.

Жыве Беларусь!

**У. ШАЙТАР,**
**вайсковец.**



## BYELORUSIAN ASSOCIATION OF AUSTRALIA

BOX No. 94, P.O. FAIRFIELD. N.S.W. 2165
Australia

Сакавік 1992г.

SOME HISTORICAL FACTS

1. First All-Byelorusian Congress attended by 1,872 delegates from Dec. 5-17, 1917.
2. Proclamation of Independence by Byelorusian Government on March 25th, 1918.
3. Byelorusian uprising against Russians in Nov., 1920.
4. Second All-Byelorusian Congress attended by 1,039 delegates, on June 27th, 1944.

Беларускаму Народнаму
Фронту ў горадзе Віцебск,
на рукі Юрасю Сьцяпанаў.

Вітаю Вас з 74-мі Угодкамі Векапомнага Акту Незалежнасьці, праз Якога Беларускія патрыёты, раніцай ў панядзелак, 25-га Сакавіка, 1918г. Абвясьцілі Вольнасьць і Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.
Жаданьне свабодалюбнага і нікому не пагражаючага беларускага народу быць вольным гаспадаром на сваёй беларускай зямельцы, не спадабалася крывавым ворагам і ён, сваёй значна-пераважаючай ваенна-збройнай сілай, паноўна акупаваў Беларусь і паддаў ўвесь беларускі народ пад пасіленую Русыфікацыю ды плянавую і сыстэматычна праводжаную палітыку гэнацыду.

Міліёны нявінных дзетак Маці-Беларусі былі фізычна зьнішчаныя ворагам ў ягоных спробах зьнішчыць беларускі народ як асобную і багатую культурай і гісторыяй нацыю - аднак Сьвятая Ідэя Незалежнасьці аказалася НЕПЕРАМОЖНАЙ і Яна заўсёды жыла і развівалася ў розуме і сэрцах беларускіх патрыётаў ды пры кожнай нагодзе прыпаміналa ворагам што беларускі народ ніколі не пагодзіцца на акупацыю сваёй краіны і што ён будзе змагацца за сваё вызваленьне аж да пераможнага канца.

Перамога над ворагам ўжо ёсьць, фактычна, асягнутая і цяпер наш беларускі народ ўжо памаленьку - але з упэўненасьцю - пачынае адбудоўваць ўсе тыя праявы нацыянальна-дзяржаўнага жыцьця якія былі зьнішчаныя ворагам... Гэта займе час, аднак Беларусь ўжо жыве і будзе жыць!

Мы Аўстралалійцы беларускага паходжаньня нізка схіляем свае галовы перад Сьвятой Памяцьцю міліёнаў зьнішчаных ворагамі і загінуўшых ў змаганьні беларусаў і належнай гордасьцю аддаем чэсьць і пашану ІМ і ўсяму пераможнаму Беларускаму народу!

Слава і Гонар Творцам Акту 25-га Сакавіка!!!
Няхай Вечна Жыве Вольная і Незалежная Беларусь!!!

З пашанай,

А. Алехнік
Гэнэральны Сакратар

**ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА РЭФЕРЭНДУМ ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

# КОНЕЦ СПЯЧКИ

Политические события последних дней по крайней мере потенциально несут в себе некое новое качество. Если раньше толчком для изменений в республике являлись внешние события, то сейчас ситуация может коренным образом измениться. Референдум и события вокруг него могут не только стать концом спячки населения, но и показать, что же представляют собой новые субъекты политической жизни. Смогут ли БНФ, Объединенная Демократическая партия Беларуси (ОДПБ), другие политические партии собрать необходимое количество подписей, организовать избирательную компанию и победить на парламентских выборах? Смогут ли они стать действенным фактором политических процессов, происходящих в республике?

В связи с этим необходимо дать хотя бы краткий анализ складывающегося политического положения. Это позволит точнее определить стратегию и тактику демократического движения на ближайший период.

Начнем с характеристики недавно образованного блока «Новая Беларусь». Не будем здесь касаться организационных промахов инициаторов создания этого блока—они очевидны, особенно на фоне подхода к созданию нашими южными соседями блока «Новая Украина». Лучше поговорим о содержательной стороне. Мне кажется, что инициаторы создания блока не сумели правильно оценить ситуацию, сложившуюся после выдвижения БНФ идеи проведения референдума о недоверии Верховному Совету Республики Беларусь.

Известно, что руководство БСДГ не подписало совместное заявление демократических сил, в котором декларировалась эта инициатива. И причина здесь не только в формальной стороне дела—мол, лидеры Грамады не имели права поставить подписи под заявлением без согласия Центральной Рады,—сколько в том, что уже тогда социал-демократы были готовы выступить с идеей создания блока «Новая Беларусь», блока, который был ориентирован на взаимодействие и сотрудничество с ныне существующим Верховным Советом, призван оказывать на него определенное давление, но не предусматривал его роспуск.

Именно это предопределило и организационные просчеты, и приглашение принять участие в блоке огосударствленные профсоюзы.

Поэтому не случайно и то, что БНФ и ОДПБ не вошли в «Новую Беларусь», а несколько позднее из нее вышли НДПБ, БХДЗ и некоторые другие общественные организации.

В самом деле, главная задача сейчас—это успешное проведение референдума и роспуск недееспособного Верховного Совета РБ. Отсюда вытекает и необходимость создания не блока вообще вкупе с огосударствленными профсоюзами, а блока избирательного, нацеленного на победу на предстоящих парламентских выборах. Не давление на Верховный Совет, а его роспуск должны стать лозунгом сегодняшнего дня. Понятно, что в сложившейся ситуации «Новая Беларусь» из партнера Верховного Совета будет скорее всего эволюционировать в самостоятельный избирательный блок или останется маловлиятельным политическим образованием. Она не сможет уже стать основой для создания более широкого избирательного блока демократических сил, ибо факт невхождения в «Новую Беларусь» БНФ и ОДПБ стал реальностью. Сложившаяся ситуация предопределяет и дальнейшие действия демократических сил. БНФ, ОДПБ и другие политические партии (не исключая БСДГ и БКП) на протяжении сравнительно короткого промежутка времени должны провести консультации друг с другом и на добровольной основе организовать предвыборный избирательный блок. Естественно, что этот блок не может быть организован ранее, чем будет собрано необходимое количество подписей для проведения референдума о недоверии Верховному Совету РБ. По моему мнению, этот избирательный блок должен опираться на партии и движения, находящиеся в поле притяжения центра, и не включать в себя как правых, так и левых. Что из себя будет представлять этот блок в численном отношении, какое название он получит, покажет будущее. ОДПБ же, не откладывая дела в долгий ящик, решила уже сейчас приступить к серии политических консультаций на предмет создания такого блока.

**М. ПЛИСКО,**
**заместитель председателя ОДПБ, народный депутат Мингорсовета.**

# АБ СУМНЕННЯХ І ІХ БЕСПАДСТАЎНАСЦІ

У час збору подпісаў у падтрымку рэферэндуму мне даводзілася чуць сумненні, якія выказваюць грамадзяне адносна неабходнасці яго правядзення. Найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца наступныя.

**1. Параўнайце ўзровень нашага жыцця з жыццём у Расіі. Там людзі пухнуць з голаду, а ў нас во які асартымент!**

Прыстойны адзетак ды цярпімы наедак у нашых людзей не ёсць заслуга цяперашняга Вярхоўнага Савета. Па-першае, у нас быў больш высокі пачатковы, «даперабудовачны» ўзровень, дзякуючы працавітасці нашага народа. Хутчэй трэба сказаць, што гэта захавалася не дзякуючы, а насуперак захадам ВС. Па-другое, чаму мы павінны раўняцца на найбольш адсталага з нашых суседзяў? І нарэшце, сённяшні ўзровень можа ўпасці за месяц, шмат што залежыць ад палітыкі кіраўніцтва. Мусіць, так яно і будзе.

**2. Мне вельмі падабаецца Шушкевіч. Дзякуючы яго сустрэчам, пра Беларусь хоць трохі загаварылі ў свеце.**

Сапраўды годны кіраўнік Станіслаў Станіслававіч—адукаваны, ведае дзяржаўную мову. Ні ў якое параўнанне не ідзе ён са сваім папярэднікам, па якому «хто як хаціт, той так і гаварыт». Але ж калі гэта так, дык Станіслава Станіслававіча можна абраць другі раз!

**3. ВС мяне не задавальняе, бо некампетэнтнасць яго відавочная. Але і БНФ я не давяраю: яны прагнуць адхапіць сабе кавал патлусцей.**

Калі б асабістае ўзбагачэнне было пакрыёмай мэтай апазіцыі, яна не выступала б за рэферэндум, а метадычна і засяроджана, цішком рабіла гэта. Зрэшты, сёй-той з учарашніх кампартбосаў так і робіць. Аднак жа апазіцыя выступае за роспуск ВС, г. зн. фактычна за самароспуск, не патрабуючы сабе прывілей і не дапускаючы іх для іншых. А не давяраеце БНФ, дык галасуйце за прадстаўнікоў іншых партый—калі будуць выбары. Усё залежыць ад нас, якое начальства мы сабе выберам.

**4. Рэферэндум не падтрымліваю, бо ён запатрабуе шмат сродкаў.**

Стратная гэта рэч на самой справе: папярэднія выдаткі з касы БНФ ужо перавысілі 100 тыс. рублёў. Аднак, падлічыце, спадарове, ува што абыходзіцца нам адзін дзень утрымання такога ВС, калі ўжо само яго існаванне ёсць для Беларусі небяспекай? Не палохаймася выбараў і перавыбараў; мусім жа некалі выбраць добрае начальства!

**5. Фармулёўка пытання недакладная. Шушкевіч нават параўнаў яе з пытаннем кшталту «Ці сорамна Вам штораніцы збіваць сваю жонку!»**

Фармулёўка якраз удалая, добра абдуманая і дальнабачная. Яна заключае ў сабе тры ўмовы: 1) роспуск ВС; 2) новыя выбары; 3) новы выбарчы закон, праект якога распрацаваны апазіцыяй. Пры незахаванні прынамсі адной умовы ўся кампанія не мае сэнсу.

**6. Дзе гарантыя, што наноў абраны ВС (Сойм) будзе лепшым за цяперашні!**

З упэўненасцю можна сказаць, што ён не будзе горшым.

Гарантыя гэта—у нас саміх: ува мне, у табе, у нас—у беларускім народзе. Толькі не ў **іх**—не ў наменклатуршчыках.

**Уладзімір СЛАБІН,**
**ВДПІ імя С. М. Кірава, кафедра хіміі.**

# ХОПІЦЬ СЯДЗЕЦЬ У МЯККІХ КРЭСЛАХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

на 300—400 рублёў у месяц, нават калі будуць яны атрымліваць 550 рублёў. Я не ведаю і не зайздрошчу ім, як і яны мне. Нават «паёк» у апошнія 2 месяцы пачалі «выдаваць» абразлівым чынам: кансерву 78 рублёў за банку, мяса 50 рублёў за кг., каўбаса невысокага гатунку—60 рублёў. Ад кансервы, мяса, каўбасы многія адмовіліся. Кансервы так і ляжаць на прылаўку, а мяса адвезлі назад, каб не згніло.

У газеце «7 дней» за 22 сакавіка прыведзена статыстыка зарплаты розных груп працоўных і інтэлігенцыі, а састарэлыя ў гэтым спісу чамусьці адсутнічаюць. Дзяржаўным уладам, статыстам або сорамна стала прыводзіць такія лічбы для параўнання, або гэтая састарэлая група насельніцтва імі зусім выкінута за борт грамадства, як адыходы ў вачах высокіх чыноўнікаў, але такі факт. А ці ж не гэтыя людзі абаранілі Радзіму ў перыяд вайны, ці ж не яны потам і крывёю аднаўлялі народную гаспадарку ў цяжкія пасляваенныя гады, ці не яны яе ўмацоўвалі?

А што атрымліваецца зараз? За мінулы год ўзнікла многа самагубства сярод насельніцтва і з гэтай колькасці 25,7% пенсіянераў, 30,7% людзей прадпенсійнага ўзросту. Што, паважаны ветэран, цяпер я думаю, вы згадзіліся каму патрэбен рэферэндум. Можа гэтыя састарэлыя людзі ад салодкага жыцця, якое ім даў Вярхоўны Савет і Урад, рашаюць сваё існаванне самагубствам?

А разам з гэтым, самай аўтарытэтнай і высокааплачваемай кваліфікацыяй у рэспубліцы лічацца целаахоўнікі. Як думае таварыш ветэран, каму яны патрэбны, для чаго? На іх трацяцца вялікія дзяржаўныя сродкі. Ці патрэбны гэтыя целаахоўнікі таму, хто сёння не ведае, як выжыць, як звесці канцы з канцамі за 300—400 руб., хто думае, як хутчэй збавіцца ад пакут шляхам самагубства? Я думаю, што яны патрэбны, каб абараніцца ад народа, тым, хто сядзіць у мяккіх крэслах, хто даў сабе права сёння спажываць тое, што ствараюць іншыя, хто шыкуе, грабіць і рабуе народ—нашым уладным кіраўнікам. Якім чынам вывесці народ з галечы, татальных крызісаў, агульнага дэфіцыту? У Савета Міністраў няма праграмы. Хоць Савет Міністраў і Вярхоўны Савет і гавораць, што бачаць «свет у канцы тунэля», але гэта не што іншае, як чырвоны свет апошняга тупіка.

Я пераж ыў многа лідэраў: ад Сталіна да Гарбачова, але такіх хапуг, рвачоў, несумленных, недзеяздольных, зняважлівых, варожых людзям кіраўнікоў ні ў Саюзе, ні ў дзяржаве Беларусь раней не было. Гэтая сучасная наменклатура не крыўдзіць толькі сябе, сваю чэлядзь і сваіх сяброў. Вось чаму людзі патрабуюць рэферэндуму.

**Леанід Мільто,** галоўны ўрач вузлавой бальніцы ст. Орша, народны дэпутат гарадскога Савета гаворыць: «Кіраўніцтву БНФ да лямпачкі, відаць, што рэферэндум і новыя выбары ў Вярхоўны Савет запатрабавалі б многіх і многіх мільёнаў рублёў. Дзе ўзяць такія грошы? З кішэні падаткаплацельшчыкаў, з небагатых даходаў кожнага з нас». Сказана трапна і ніхто, я думаю, аспрэчваць не будзе, што даходы тых, хто жыве на сумленную зарплату, пенсію, стыпендыю, не багатыя. Але, калі задумацца глыбей, чаму так атрымліваецца. Рэферэндум толькі пачаўся—на яго ківаць няма сэнсу. Безумоўна, можа мільёны і пойдуць на арганізацыю выбараў, але гэта ўбачым восенню. Але к месцу будзе напомніць пра мільярды, якія знікаюць, або зусім не трапляюць у кішэні працоўных людзей, якіх рабуе ўлада, рабуюць дзеячы з мяккіх крэслаў. А колькі мільярдаў народных грошай ідзе на ўтрыманне войска, якое ў 4 разы большае па колькасці, чым па разумных разліках? А колькі мільярдаў ідзе на разбухшы непатрэбны кіраўнічы апарат, які трэба скараціць на 50—60%.

**Аляксей Дзем'янкоў,** старшыня Крапівеньскага сельскага Савета выказаў здагадку: «Упэўнены, што калі б у якой-небудзь вёсцы нашага сельсавета з'явіліся зборшчыкі подпісаў у падтрымку рэферэндуму, то аднадумцаў сярод сельскіх жыхароў яны наўрад ці знайшлі б». Тав. Дзем'янкоў вельмі ўпэўнены. Гэта яго справа. Але факт, з якім я сустрэўся ў 4 вёсках, зусім іншы. Думаю, што ў т. Дзем'янкова проста такое жаданне, але думкі не заўсёды адпавядаюць рэаліям, асабліва калі думаць без высноў і практычных абгрунтаванняў. Хачу адзначыць пра сяльчан такое. Сяльчане ў нашай дзяржаве атрымалі на душу насельніцтва мяса, малака, бульбы і іншых прадуктаў у 1991 годзе больш, чым у самай багатай дзяржаве—ЗША. А народ галадае пры нашым Вярхоўным Савеце і Ўрадзе. Можа не абсурд?

Намеснік Старшыні Савета Міністраў т. Мясніковіч 20 снежня 1991 года па радыё сказаў, што «Мы рашылі даць насельніцтву па 2 кг мяса па 12 руб.за кг, і па 2 кг масла па 8 руб., але мы падлічылі, што лепш даць 60 руб.» «Цэны ўзгоднены з Расіяй». Дык дзе ж тыя цэны? Дзе ж тое мяса і малако? Селянін выpабляе, а куды ўрад гэтае ўсё сплаўляе? Усё знікае.

А тым часам старшыня Савета Міністраў т. Кебіч 4 снежня 1991 года ў інтэрв'ю газеце «Звязда» сказаў: «Рыхтуем лібералізацыю цэн для ўстойлівасці народнай гаспадаркі». «Ненасычаны рынак настолькі вялікі, што калі павялічыць цэны ў 10 разоў, вытворчасць застанецца без тавару, яго вывезуць». Савет Міністраў паскупіўся даць людзям па 2 кг мяса з 11 вырабляемых, 2 кг масла. А т. Кебіч замест гэтага яшчэ ў снежні паабяцаў тавары і прадукты вывезці свядома, і свае намеры здзяйсняе. На каго працуе селянін? Што ён атрымлівае за сваю працу? Як ён сам жыве?

Народ усвядоміў, што кіраўніцтва дзяржавы, Саветы розных узроўняў абараняць інтарэсы насельніцтва не будуць, яны не здольны гэта зрабіць, не маюць жадання. Таму не наладжваецца кантроль над цэнамі, зарплатай і гандлем. Многія дэпутаты адхіліліся ад інтарэсаў выбаршчыкаў, забыліся пра абяцанні на перадвыбарных сходах. Вось чаму трэба адхіліць ад улады недэмакратычны, непрыгодны, няздольны кіраваць Вярхоўны Савет, правесці выбары на дэмакратычнай аснове. Бо толькі новы прафесійны парламент зможа сфарміраваць Урад, які правядзе рэформы, карысныя працоўным, павысіць узровень жыцця, вызваліць з рабства, дасць сапраўдную адзнаку чалавечай працы, спыніць нацыянальную варожасць, выведзе палітыку з развала, эканоміку з тупіка. Беларускі народ заслужыў лепшага жыцця, але не атрымаў яго. Вынікамі яго працы карыстаюцца людзі нізкага гатунку.

**Г. ГАЙКО,**
**былы старшыня калгаса «Ленінскі прызыў».**

